Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
Янка Купала.

Free Hlybokaye

## "Пяцёрка" супраць БТ

**"Пяцёрка патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты -- Сямён Домаш, Міхаіл Чыгір, Павел Казлоўскі, Уладзімір Ганчарык і Сяргей Калякін -- звярнуліся з адкрытым лістом да генеральнага пракурора Беларусі Віктара Шэймана.**

Яны звяртаюць увагу на факты распаўсюджвання ў інфармацыйна-аналітычных перадачах Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі "паклёпніцкіх выдумак і распальвання нацыянальнай варожасці. Усё гэта падаецца з наўмысным нагнятаннем істэрыі і страху..."

**Ю.Пацёмкін** *"Народная воля"*

## Вернем спадчыну нашчадкам

Грамадскае аб'яднанне "Культурна-асветны цэнтр Язэпа Драздовіча" з Германавіч набыло ў вёсцы Алашкі Шаркоўшчынскага раёна сядзібу, якая належыла садаводу Івану Сікоры. У цэнтры сядзібы -- дом, пабудаваны ў 1900 годзе. Ён мае патрэбу ў рэстаўрацыі. Асобы догляд патрэбны і старому саду. Раскрадзена бібліятэка Сікоры, у якой было некалькі тысяч кніг, у тым ліку старадрукаваных. Кіраўнік "Культурна-асветнага цэнтра Я. Драздовіча" А.Э.Райчонак звярнулася да знаёмых беларускіх пісьменнікаў з просьбай дапамагчы ў справе адраджэння гісторыі краю.

**Працяг тэмы на стар. 4-5 у артыкуле "САДАМ СІКОРЫ-КВІТНЕЦЬ!" нашага аўтара С.Таболы**

## Дзень выбараў прызначаны


Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына
Фота Irex Promedia

**9 верасня гэтага года адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Тры месяцы, адведзеня для падрыхтоўкі, прамільгнуць непрыкметна.**

Таму ўжо сёння і ўлады, і грамадскасць нястомна працуюць, набліжаючы гэты дзень. Што прынясе ён усім нам, беларусам, будзе залежыць толькі ад усіх нас.

Перш чым рабіць выбар на карысць будучага прэзідэнта, вызначыцеся чаго Вы хочаце дабіцца, што мець у гэтым жыцці. Проста не верыцца, што беларусы, якія за апошнія сем год і нагаладаліся, і намыкаліся без працы, і былі прыніжаны, і вымушаны былі з'ехаць за мяжу ў пошуках лепшай долі змогуць прагаласаваць за працяг здзеку над сабой.

Выбар у Вашых руках, беларусы!

**"ВГ"**

Выдаецца са снежня 1994 года.
№ 7-8 (67-68), чэрвень, 2001 года.
Кошт па дамове

### ЦЫТАТА НУМАРА

**Моцны чалавек заўсёды нешматслоўны і толькі слабы меле, як млын, каб хоць неяк прыцягнуць да сябе ўвагу.**

Філасофская мудрасць. «НВ», 4.05.2001 г., №80 (1145)

## Прыйшоў час выбіраць!


Фота Irex Promedia

## Адным радкам

● У чэрвені павялічыліся ў 1,82 разы тарыфы на ацяпленне і гарачую ваду

● 28 красавіка стане прафсаюзным днём памяці тых, хто загінуў на вытворчасці

● Па словах міністра фінансаў М.Корбута, зараз склалася "страшная сітуацыя" з выплатай зарплат і адпускных у бюджэтнай сферы.

● 1 чэрвеня газета "Віцебскі кур'ер" адзначыла адзінаццігоддзе з дня заснавання. Віншуем!

● 14 чэрвеня ў Паставах прайшоў традыцыйны міжнародны фестываль **"Звіняць цымбалы і гармонік"**. З гэтай нагоды ў Паставах, напярэдадні свята, з'явілася шматметровая стэла з каляровым старажытным гербам і датай (1409 г.) заснавання горада.

## Воля беларусаў -- лёс беларусаў!

**8 чэрвеня 2001 года Кансультатыўны савет апазіцыйных палітычных партый звярнуўся да беларусаў.**

У звароце значыцца: "Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць справядлівых і чэсных выбараў. Для гэтага як мінімум неабходна спыніць практыку папярэдняга галасавання без пісьмовага абгрунтавання магчымасці галасавання; любыя падштурхоўванні да тэрміновага галасавання лічыць злачынствам; уключыць ва ўсе выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый; забяспечыць умовы работы назіральнікаў з крытэрыямі АБСЕ".

*Я.Савойка*

## Хто будзе прэзідэнтам?

"Ці верыце Вы ў магчымасць павелічэння сярэдняга заробку да 2006 г. у пяць разоў у выпадку перавыбрання А.Лукашэнкі прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь?"-- з такім пытаннем да грамадскіх лідэраў і экспертаў звярнуліся супрацоўнікі Незалежнага інстытута сацыяна-эканамічных і палітычных даследаванняў у час майскага апытання. На анкету адказалі 80 чалавек. 88% з іх заявілі, што ў гэта не вераць. На пытанне "Ці хацелі б Вы, каб цяперашні прэзідэнт быў кіраўніком краіны яшчэ адзін тэрмін?", 88% апытаных адказалі адмоўна.

*Л.Ігнацьеў, БелаПАН*

## Даў слова -- стрымай!

У Палаце прадстаўнікоў Васіль Хрол, якога абралі ў Глыбоцкім і Докшыцкім раёнах дэпутатам, карыстаючыся сувязямі, не пакідае па-за ўвагай праблемы выбаршчыкаў. Так, з яго падачы ў Глыбокім распачаўся рамонт Кафедральнага Сабора, горад уключылі ў праграму газіфікацыі. Нядаўна сучасныя камп`ютары з'явіліся ў Ваўкалацкай СШ Докшыцкага раёна. Крыху раней камп`ютарны клас парадаваў школьнікаў Суклінскай СШ Глыбоцкага раёна. Калі так пойдзе і далей, то за гады дэпутацтва Васіля Храла можа ўдасца дабудаваць школу ў Бортніках і рэканструяваць СШ №1 г. Глыбокае. Вось толькі футбольныя фанаты крыўдуюць на дэпутата. Мясцовая каманда "Азярцы" не трапіла на чэмпіянат Беларусі з-за фінансавых праблем. У свой час В.Хрол абяцаў футбалістам падтрымку для выхаду ў вышэйшую лігу.

*У.Шык.*

## Фермеры з Мосара

Бацька і сын Барысавы сваю справу на зямлі пачыналі з 16 гектараў у Шаркоўшчынскім раёне. Затым перабраліся на Глыбоччыну. З сёлетняй вясны апрацоўваюць 240 гектараў арэндаваных земель. Памагатых, каб пасадзіць 12 элітных гатункаў бульбы, у Мосары не знайшлося. Жадаючых падзарабіць фермеры штодзённа на ўласным аўтамабілі прывозілі з суседняга Шаркоўшчынскага раёна. Кармілі памочнікаў у шыкоўнай сталовай, у канцы дня разлічваліся за працу і прапаноўвалі памыцца ў лазні. Гаспадар -- ён і ў Беларусі гаспадар.

*У.Шык*

## Сродкі на прэзідэнцкія выбары

**Выбары прэзідэнта будуць каштаваць Беларусі 11 мільярдаў 40 мільёнаў рублёў.**

Асноўная частка гэтай сумы пойдзе на аплату працы членаў выбарчых камісій усіх узроўняў. На кожнага кандыдата ў прэзідэнты будзе выдзелена сума, эквівалентная дзевяці тысячам долараў ЗША.

Цэнтральная выбарчая камісія разлічвае, што прэтэндэнтаў на пост прэзідэнта будзе не менш пятнаццаці.

*Ю.Пацёмкін, БелаПАН*

## Беларусь -- Літва: крокі да супрацоўніцтва

**З 8 чэрвеня 2001 г. кошт літоўскай візы для грамадзян Беларусі зніжаецца да 10 долараў ЗША.**

У бліжэйшай будучыні ў сувязі з працай санаторыя "Беларусь" пачне курсіраваць вагон Мінск -- Вільнюс -- Клайпеда. А з 1 студзеня 2003 года для спрашчэння перасячэння беларуска-літоўскай мяжы і паляпшэння стасункаў паміж дзяржавамі ў Беларусі будуць дадаткова адкрыты некалькі літоўскіх консульстваў.

*"Народная воля"*

## Куды мы трацім грошы?

Сярэднемесячны прыбытак беларусаў складае ў асноўным 70-80 долараў. 33% гарадскіх і 42% сельскіх сем'яў маюць прыбыткі ніжэй пражытковага мінімуму. Беднасць насельніцтва ярка праяўляецца ў імкненні людзей пасадзіць і вырасціць. Гародніна і садавіна -- добрая падмога тым, у каго кожная капейчына на пераліку.

60% нашых прыбыткаў ідзе на харчаванне, 13,7% — на адзенне і абутак і толькі 1,1% — на культуру, адпачынак і спорт. Больш за ўсё грошай (23,4% ад агульнай сумы) беларусы трацяць на хлеб, 30,5% — на мяса, 14,4% — на малочныя прадукты.

Горш за іншых жывуць вялікія сем'і, у якіх пяць і больш членаў. Беднымі з'яўляюцца 48% сем'яў з дзецьмі і 28% — бяздзетных сем'і. За мяжой беднасці жыве 40% працаздольнага насельніцтва.

*А.Ракава, Бела ПАН*

# Рэгіянальны "экспрэс"



## "Бярыце, бярыце, я Вам яшчэ намалюю"

Нядаўна мне далі на здачу адзін рубель. Нехта намаляваў за адзінкай дванаццаць нулёў і напісаў: "Купі сабе машыну і бензін". Ад такой парады і падобнага мастацтва робіцца горка. Яшчэ больш сорамна за свае грошы, калі даведаешся, што падлеткі ходзяць з беларускімі рублямі па патрэбе і выкарыстоўваюць іх замест туалетнай паперы. Няма ў нас павагі ні да мовы сваёй, ні да традыцыйнай культуры, ні да грошай. Ужо збіраюцца перайсці на расійскі рубель. У мяне іншая прапанова. У Беларусі ўжо даўно сапраўдную каштоўнасць ўяўляюць амерыканскія даляры, валюта на якую і перахадзіць не трэба, бо мы з ёй жывём. Чаму б нам не аб'ядналца з той краінай, чыімі грашыма з павагай карыстаецца і бабка-пенсіянерка, што збірае на дамаўё, і новы беларус, і "вертыкальшчык", і ўсе астатнія, інтэгратары? Гэта краіна, што б на яе не брахалі, дамаглася магчымасці за свой кошт падтрымліваць эканоміку многіх занядбалых краін, у ліку якіх і наша. З экранаў не сыходзяць амерыканскія баевікі, у кніжных магазінах раманы замежных аўтараў, на рынках тавары не нашы. У нашай краіне з усяго беларускага засталася жменька галых беларусаў. Чаму б нам не аб'ядналца з моцнай краінай і не паспрабаваць зарабіць сабе на годнае жыццё?

З кожным годам колькасць "зайцаў" у нас у руках павялічваецца, але ад гэтага не лягчэй – абясцэньваюцца яны хутка. Таму абяцанкі даць нам заробак 100 долараў да восені, 250 да 2005 года, 125 долараў пенсіі нічога не варты. Атрымоўваецца як у вядомай кінакамедыі "Вяселле ў Малінаўцы", дзе Пападопала кажа, даючы нічога не вартыя грошы: "Бяры, бяры, я сабе яшчэ намалюю".

*Максім з Глыбокага*

## Мы ўсе маем права на годны ўзровень жыцця



У вёсцы не бывае святаў. Гэта агульнавядомая ісціна. Сельская гаспадарка патрабуе штодзённай увагі і клопату. Ферму не зачынілі на замок, не спынілі сяўбу або ўборку. Водпуск, выхадны дзень, наогул, адпачынак у вяскоўцаў паняцце ўмоўнае. Па большай частцы працуюць людзі гадамі без гэтых гарадскіх прывілей, атрымаўшы цяжкую ношу ад моманту нараджэння ў вёсцы і ім у галаву не прыходзіць, што павінна быць інакш, што ўсе правы гарантаваныя Канстытуцыяй РБ (у тым ліку і нарміраваны працоўны дзень, і водпуск, і святочныя дні) належаць і ім у роўнай ступені з гараджанамі, што яны таксама людзі свабодныя, а не прыгонныя. І не віна вяскоўцаў, што за працу сваю атрымліваюць мізэр і той несвоечасова, мізэр, які не дазваляе ім жыць годна, без думак, як выжыць, як пракарміць і вывучыць дзяцей. Як "справядліва" рынкавы сацыялізм аплочвае працу селяніна, мяркуйце самі: на тону бензіну еўрапейскі фермер (немец, паляк і г.д.) павінен прадаць 1100 кг. збожжа, расіянін 3300 кг., а беларус 6600 кг! Ну, а калі няма збожжа можна прадаць малако. Толькі "капіталістычнаму" фермеру тону паліва прададуць за 445 кг. малака, расіяніну за 2131кг., а беларусу за 7342 кг! Але наш талерантны · пан сахі і касы" працуе штодзённа, здаючы дзяржаве малако, пастаўляючы мяса, збожжа і г.д., забяспечваючы насельніцтва прадуктамі харчавання без святаў, выхадных, жывучы надзеяй займець "светлую будучыню".

*С. Табола*

Радкі з канвертаў

## Свае хваляць, а дзяцей за мяжу адпраўляюць

Давялося нядаўна размаўляць з адным выканкамаўскім чыноўнікам. Гаварылі пра жыццё-быццё і хоць даўно з ім знаёмы, ён трымаўся на "дыстанцыі", са мной не зусім згаджаўся, хваліў цяперашнія метады кіравання, палітыку. Калі ж пачалі гаварыць пра дзяцей, аказалася, што яго сын і дачка, аднагодкі маіх хлопцаў, якія ішачуць на заводах і не атрымліваюць грошай, з'ехалі за мяжу. Паступілі ў акадэмію кіравання, праз пятагадзесятага знаёмага чыноўнік іх "спіхнуў" у "гнілое" замежжа. Яны там і давучваюцца, і працуюць. Добра зарабляюць, бацькам грошы шлюць. Вось табе і на. Чаму ж чыноўніку не хваліць сваё, калі ён жыве на замежнай дапамозе? Чаму гэты разумнік пастараўся адправіць дзяцей, дзе так дрэнна, бедна, гола, калі верыць нашым кіраўнікам? Я таксама магу змяніць свой погляд і свае адносіны да цяперашняй сітуацыі ў краіне, калі мае сыны будуць працаваць у Амерыцы і мне не патрэбна будзе аддаваць ім сваю пенсію.

*З павагай Ваш чытач Міхаіл Іванавіч Пятрага*

## Стоячы да Браслава



Нядаўна давялося ехаць з Мінска ў Браслаў. Ехаў у чацвер, спецыяльна разлічваў, што менш будзе народу. Але не тут было. Ужо раніцай купіў стаячы білет. Такіх як я "вязунчыкаў" было з добрага паў аўтобуса: хто купіў стаячы білет, хто ўпрасіў вадзіцеля і заплаціў не дзяржаве, а яму. "Ну і няхай сабе. Калі дзяржава, бачачы праблему, не можа адкрыць дадатковы рэйс і на гэтым зарабіць, няхай прайграе". Па дарозе, для "навару" вадзіцель падабраў дзвюх жанчын–камерсантак, якія везлі 35 мяхоў семак. Мяхі тыя ў багажныя аддзяленні не ўлезлі, імі загрузілі салон праз заднія і пярэднія дзверы. Духата. Людзям на прыпынку не павярнуцца, не вылезці. І само сабой узніклі пытанні: "Чаму за такія мэнкі я павінен плаціць гэтулькі ж, што і за сядзячае месца?", "Чаму для вадзіцеля "навар" даражэй чым жыццё добрых шасцідзесяці пасажыраў"?. Ці мала што магло здарыцца – аўтобус жа быў перагружаны! Чаму мае праблемы не цікавяць адміністрацыю вакзала, іншых чыноўнікаў? Чаму – вядома. Яны па сваіх справах ездзяць у раскошных іншамарках, гэта народ душыцца ў перапоўненых аўтобусах і плоціць за стаячы білет столькі ж колькі за месца з выгодамі. Нашы людзі не выкаблучваюцца: хоць на мяшку, хоць пад мяшком, хоць на адной назе – абы ехаць. Як жа трэба не паважаць свой народ, каб так здзеквацца з яго?!

*Генадзь Мастоўскі*

Аўтарскі мікрафон

## Пакланяцца трэба не ідалам, а Богу

На жаль, яркай адметнасцю сучаснасці з'яўляецца – фетышызм – пакланенне рэчам (фетышам), абагаўленне пэўных прадметаў і з'яў.

Мэта многіх з нас сёння займець як мага больш тавараў, тэхнікі, залатых вырабаў… На дасягненне падобных мэт мы часта трацім усё жыццё, іншы раз нават не задумваемся за які кошт гэта ўсё дасягаецца. Мы прызвычаіліся пакланяцца быту, усяму, што з ім звязана. Наш розум не ідзе далей абстаўленай кватэры, шыкоўных касцюмаў, касметыкі, бесталковых размоў… Мы зайздросцім падчас чужому багаццю, пачынаем лічыць чужыя грошы, трацім сон і нервы толькі таму, што не можам дацягнуцца ў бытавым плане да некага, каму ў гэтым жыцці больш шанцуе.

Пустата ў галовах, прастрацыя ў мэтах, разлезлае, распоўзлае ад вялікасці сваё ўласнае "я". Вынік – самі таго не прыкмячаючы, мы пачынаем з павагай схіляцца перад начальнікам, які грошы не лічыць, перад "новым" беларусам які есць і п'е, што хоча, бо ў яго хапае, перад уладай, нарэшце, якая гэта ўсё адным дае, а ў другіх адбірае. У ліку апошніх не хоча быць ніхто, а таму і схіляемся перад уладу маючым, робім усё, каб улада прыняла нас у сваё лона і ашчаслівіла дастаткам. Улада, яе прадстаўнікі, і ёсць тыя ідалы, якім мы пачынаем кланяцца, каб менш мець бытавых праблем.

Сярод кіраўнікоў, ведаю, ёсць талковыя людзі. Змяні нашы законы, дай ім свабоду дзейнасці і яны змогуць зрабіць, здавалася б, немагчымае. Ёсць і такія, якія з прыкрасцю адносяцца да ўкленчаных. Ёсць, але іх адзінкі. Большасці падабаецца, калі перад імі стаяць на каленях, калі ў іх просяць, ганарацца сабой, калі зміласцівяцца і дапамогуць некаму. Свой абавязак прадстаўляюць, як кафтан з барскага пляча.

Не трэба кланяцца ўладзе і маліцца на яе. Не трэба ўладу баяцца, бо ўлада – гэта не абстракцыя, гэта жывыя людзі, такія ж, як усе мы. Яны гэтак жа ядуць, п'юць, працуюць, адпачываюць, ходзяць па патрэбе. І гэтак жа моляцца на вярхоўную ўладу і баяцца яе. Трэба адкінуць страх перад сабе падобнымі і кланяцца, маліцца і баяцца толькі Бога. Толькі ў яго ўладзе караць і мілаваць. Толькі ён нам дае тое, што мы хочам, дае, калі мы гэтага заслугоўваем і не патрабуе многага: толькі шчырай малітвы і аберагаць душы людзкі.

Паверце, у Беларусі шмат што зменіцца ў лепшы бок, калі ў гэты ж бок зменімся мы, кожны з нас. Гэта не так складана. Трэба проста перастаць клапаціцца толькі пра дастатак і багацце, зайздросціць бліжняму, прадавацца за беспраблемнае жыццё і пачынаць, і заканчваць дзень словамі: "Дзякуй Богу, што я бачу дзень, што ў мяне ёсць сілы рабіць дабро, што я пражыла дзень, не зрабіўшы нікому нічога благога…" І ўсё стане на кругі свае…

*Галіна Сутула*

## Дзяржаўны рэкет у абліччы абавязковага страхавання

Не перастаю дзівіцца: як нас любіць і аберагае дзяржава! Так дбае пра маю маёмасць, мае пажыткі гаспадарскія, што мяне, несвядомага, які ніколі нічога не страхаваў, прымусіла плаціць штогод абавязковае страхаванне. Пры Шушкевічу мы мелі права выбару: хочаш страхуй, хочаш не. А зараз наша права стала абавязковым! Калі летась я заплаціў страхоўку за хату пяць тысяч, то сёлета 25. Ды што ж гэта за абдзіралаўка?! У мяне пенсія ўсяго 50 тысяч. Як жа мне жыць месяц?

Пад выглядам клопату пра нас дзяржава такім чынам папаўняе свае фонды. А можа ўласныя кішэні? Навыдумалі падаткаў самаабкладання. Рэгіструеш аўтамабіль – плата не такая і вялікая, а падатак той пяць тысяч. Кажуць, што ён ідзе на добраўпарадкаванне дарог. Добра было б каб так. Але ж дарогі ў нас, як у той песні пяецца:

-- У нас кладут асфальт местами и немного, чтоб каждый оккупант на подступах застрял.

Не ведаю наконт акупантаў, а мы "застреваем" – машыны ледзь не на хаду рассыпаюцца па запчастках.

Хутка ліпень. У Віцебску зноў паказушны "Славянскі базар" будзе. Колькі грошыкаў нашых лясне – і падаткаў самаабкладання, і абавязковага страхавання! Нядаўна размаўляў з рабочым адной глыбоцкай будаўнічарамонтнай фірмы. Чалавек гаварыў, што іх калектыў абавязалі адрамантаваць да "Славянскага базару" Полацкі рынак у Віцебску. Рабіць гэта прыйдзецца хутчэй за бясплатна, бо аплаціць працу рабочых па таму рамонту арганізацыя не ў сілах: мучаецца безграшоўем. Каб выкруціцца, напэўна, прыдумаюць яшчэ нейкае абавязковае права для нас.

*З павагай Ваш чытач Мікалай Федарэнкаў*

**У маі ў Глыбоцкае аддзяленне БХК са сваімі праблемамі звярнуліся 25 чалавек. Асноўная тэма зваротаў -- несвоечасовая выплата заработнай платы. Акрамя таго грамадскія праваабаронцы вырашалі праблемы працоўнага заканадаўства, разглядалі крымінальныя справы, кансультавалі па жыллёвых пытаннях і пытаннях шлюбу і сям'і.**

# Не заплаціў своечасова – плаці пеню

У Шаркоўшчынскае прадстаўніцтва БХК звярнуўся В.Бараноўскі. Мужчына ў маі пайшоў плаціць за электраэнергію за сакавік і яму налічылі пеню за пратэрміноўку. "Але я не атрымаў яшчэ зарплату за сакавік, — тлумачыў мужчына. – Чамусьці ніхто не звяртае ўвагу на парушэнні дзяржавы ў адносінах да грамадзян, а калі правініцца грамадзянін, з яго лупяць тры шкуры". У энерганадзоры патлумачылі, што пры налічэнні платы за электраэнергію і пені яны кіруюцца пастановай Міністэрства. На жаль, налічэнне платы не "прывязана" да выплаты заработнай платы. "Як хочаш, так і жыві", – гэта дзяржаўная палітыка і яе, як той бізун на спіне, сёння адчувае амаль кожны беларус.

# "Без бумажки ты – букашка, а с бумажкой – человек"

У Шаркоўшчынскае прадстаўніцтва БХК звярнулася жыхарка вёскі Дуліна Г.С.Забела. Жанчына жыве ў вёсцы, мае агарод, гадуе скаціну. Спатрэбілася ёй нядаўна здаць уласна выгадаванага цяля, але каб яго здаць, патрэбна ўзяць у сельсавеце даведку, якая пацвярджае, што Забела Г.С мае і зямельны надзел, і гаспадарку. Жанчына звярнулася ў Радзюкоўскі сельсавет, але ёй там адмовіліся даць даведку, спаслаўшыся на тое, што Г.С.Забела не заплаціла падатак самаабкладання, а гэта дзесьці чатыры тысячы рублёў.

Нікому не сакрэт, што такім чынам дзяржава "лапіць" дзіркі ў сваім "багатым" бюджэце. Але для вяскоўцаў, які не атрымаў яшчэ грошы за сакавік, сума ў чатыры тысячы вельмі важная і не заўсёды маецца ў кішэні. Мала таго, што дзяржава бязлітасна, па-рабску, эксплуатуе вяскоўцаў, яна яшчэ выграсае з іх апошнюю капейчыну, заробленую праўдамі і няпраўдамі цяжкай сялянскай працай. Сялянам-уласнікам, якія гадуюць жывёлу і хочуць хоць крыху падзарабіць, здаўшы яе, раім звяртацца да камерсантаў. Па-першае, ім не патрэбны сельсавецкія даведкі, па-другое, плацяць яны больш чым дзяржава, пры тым не абяцанкамі, а грашыма, а патрэцяе, навошта дапамагаць "эканамічна стабільнай" краіне?

*Па матэрыялах Шаркоўшчынскага прадстаўніцтва БХК*

# "Без дзяцей я не ўяўляю жыцця"

У Глыбоцкае аддзяленне БХК звярнулася глыбачанка П., маці трох дзяцей, двое з якіх зараз знаходзяцца ў Станульскім доме-інтэрнаце. Між іншым, жанчыне пагражае пазбаўленне бацькоўскіх правоў, і яна ў адчаі.

Адбылася размова Марцыноўскай Г.Л. з супрацоўнікам інспекцыі па справах непаўналетніх Г.А.Далідутка.

Справа гэтая складаная і патрабуе дэталёвай праверкі фактаў і вывучэння сітуацыі, а таму яна пакуль знаходзіцца на кантролі грамадскіх праваабаронцаў.

*Па матэрыялах Глыбоцкага аддзялення БХК*

# "Добра, што ў маі быў Усебеларускі сход"

Так гавораць многія Глыбоцкія бюджэтнікі, бо менавіта напярэдадні яго і ў дзень правядзення былі выплачаны авансы, якіх хапіла на тыдзень. Пакуль на "гарызонце" чарговае дзяржаўнае шоу больш не свеціць, бюджэтнікі зноў засумавалі – грошай не бачыць ім, як светлай камуністычнай будучыні. І ўсё ж бюджэтнікі не спяць у шапку. У Глыбоцкае аддзяленне БХК за кансультацыямі, за дапамогай пісаць заявы ў адпаведныя структуры звярталіся і настаўнікі, і медработнікі, і работнікі культуры. У СШ №3 г.Глыбокае пад заявай у Глыбоцкае аддзяленне БХК падпісаліся 60 чалавек. Але раптоўна папера з подпісамі знікла. Заява з подпісамі настаўнікаў, якія патрабуюць своечасовай выплаты зарплаты, была накіравана і калектывам СШ№2 у прафсаюзны камітэт раённага аддзела адукацыі.Атрыманы афіцыйны адказ, у якім педагогаў запэўніваюць, што падобнае больш не паўторыцца. І ўсё ж правіць такім чынам дзяржава доўга не зможа. У сітуацыі, якая зараз існуе ў Беларусі і якую нельга не назваць экстрымальнай або крытычнай, спрацоўвае інстынкт сама-захавання, які падаўляе жывёльны страх чалавека, і ён здольны ўжо не прасіць, а катэгарычна патрабаваць.

Вельмі цікава, але чамусьці да праваабаронцаў не звяртаюцца кіраўнікі арганізацый, калгасаў, адміністрацый школ, бальніц, устаноў культуры, рознага роду выканкамаўскія куратары. Магчыма, ім па пасадзе "не паложана", але хутчэй за ўсё, што зарплату яны атрымоўваюць своечасова і не ў 20-40 тысяч, магчыма, па асобных ведамасцях.

*Па матэрыялах Глыбоцкага аддзялення БХК*

**P.S.** Пакуль нумар рыхтаваўся да друку настаўнікі Глыбоччыны атрымалі зарабак за май. Запазычанасць амаль ліквідавана.





# Праваабарончая старонка «СЛОВА НАРОДУ»

## Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага Камітэта

**Грамадская прыёмная Глыбоцкага аддзялення БХК па правах чалавека вядзе прыём грамадзян штодзённа з 16-00 да 19-00. Тэлефоны ў Глыбокім: 21938, 23754.**

Думкі з нагоды

# З нашага народа можна вяроўкі віць

Апошнім часам у Глыбоцкае аддзяленне Хельсінскага камітэта па правах чалавека тэлефануюць людзі, якія не ведаюць як жыць заўтра, бо грошы за работу не выплочваюць. Настаўнікі, медработнікі, калгаснікі пытаюцца куды ім звярнуцца, каб запазычанасць па зарплаце ліквідавалі. Пра кіраўнікоў арганізацый, у якіх працуюць, нават не згадваюць. У лепшым выпадку кіраўнікі моўчкі падтрымліваюць падначаленых, але нават не збіраюцца адкрыта стаць на іх абарону. У горшым – дакладваюць уверх аб "смутьянах" і тых адразу бяруць на карандаш. Ёсць і такія кіраўнікі, якія свой абавязак разумеюць так: "Я ж начальнік, я ж не магу ва ўсім гэтым удзельнічаць".

А зараз давайце ўявім сабе такую сітуацыю. Беларуская школы -- прыватныя. Настаўнікі не атрымалі два месяцы зарплату. Да каго яны будуць звяртацца? Правільна, да працаўніка, уладальніка школ, да той асобы, якая з'яўляецца працадаўцам, нясе адказнасць за ўмовы працы, за заробак і г.д.

У рэальнасці беларускія школы, медустановы, калгасы, саўгасы – уласнасць дзяржавы.

Працадаўцам настаўнікаў з'яўляецца Міністэрства адукацыі, абласныя, раённыя аддзелы, а кіраўнікі гэтых устаноў павінны забяспечыць рэалізацыю дамоўленасці паміж дзяржавай і наймальнікамі.

Ад настаўнікаў -- праца, ад дзяржавы – грошы. Але чамусьці, калі настаўнік, медработнік, сельчанін робіць нешта не так, яго караюць, а калі не дапрацоўвае дзяржава, мы павінны маўчаць.

Усе кіраўнікі, пачынаючы з арганізацый прадпрыемстваў на месцах і заканчваючы рэспубліканскім узроўнем, павінны патрабаваць ад дзяржавы гарантаванага ёй жа права на ўзнагароджанне, згодна затрачанай працы *(арт.42 Канстытуцыі РБ)*. Патрабаваць, а не са страхам азірацца па баках – ці не ідуць па яго душу, ці не ідуць зганяць з пасады.

Да таго ж, калі грошы беларусы атрымоўваюць несвоечасова, значыць, працэнт іх з'ядае інфляцыя. Уявіце, што застанецца з сумы, якую выплацяць праз паўгода. Гэта яшчэ адно заканадаўчае парушэнне. Выплата заробкаў павінна праводзіцца з улікам выплаты працэнтаў інфляцыі не на момант налічэння грошай, а на момант іх выплаты, бо час паміж гэтымі момантамі ўжо не адзін, не два месяцы.

Напярэдадні Усебеларускага з'езда выплацілі авансы настаўнікам, медработнікам, работнікам энергаслужбаў... Заткнулі рот перад чарговым шоу.

Праўду кажуць: з нашага паслухмянага народа можна вяроўкі віць. Замест таго каб дружна настойліва патрабаваць сваё, многія, пужліва і ліслівa просяць сваё, як міласціню.

*М.Ліпавень*

Мы і наша права

# Перадвыбарны марафон

Карыстаючыся правам удзельнічаць ў кіраванні сваёй краінай, выбаршчыкі паўночна-заходняга рэгіёна Віцебшчыны актыўна ўключыліся ў перадвыбарны мікрафон. У раёнах шляхам збору подпісаў, шляхам вылучэння ад працоўных калектываў ідзе вылучэнне прадстаўнікоў грамадскасці ў тэрытарыяльныя камісіі. Згодна Канстытуцыі, зарэгістраваны ў выканкамах і Саветах народных дэпутатаў Глыбоцкага, Пастаўскага раёнаў прэтэндэнты ў гэтыя камісіі без аніякіх праблем. «Аблом» атрымаўся ў Шаркоўшчынскім раёне, дзе прадстаўнікам грамадскасці далі нібы бруднай анучай па зубах: «Спазніліся».

А было так. У пятніцу, 8 чэрвеня, Ляскоўскі І.К., Сікора А.Р. і Райчонак А. Э. з усімі неабходнымі дакументамі прыйшлі ў выканкам на рэгістрацыю. Трапілі на прыём да намесніка старшыні Шаркоўшчынскага райвыканкама Р.М.Дубоўскага, які ветліва сустрэў землякоў, але адказаў, што рэгістрацыя -- не яго кампетэнцыя. Далей прадстаўнікі Шаркоўшчынскага раёна пабывалі ў В. Лугаўцова, які не ведаў, што рабіць з прынесенымі дакументамі. Так і хочацца «пазахапляцца» кампетэнтнасцю адказных чыноўнікаў: «А што наогул яны ведаюць?»

Не знайшоўшы ў выканкаме нікога, хто б мог даць рады з паперамі прэтэндэнтаў у члены выбарчых камісій, Райчонак А.Э., Сікора А.Р., Ляскоўскі І.К. па парадзе дзяржслужбоўцаў прыйшлі ў выканкам у панядзелак, але ім адказалі, што ў пятніцу ў 14-30 ўсе камісіі былі сфарміраваны. Атрымаўшы такі адказ, прадстаўнікі грамадскасці Шаркоўшчыны апісалі свае паходы да ўлад і па факсе адправілі старшыні ЦВК Л.Ярмошынай. Будзем чакаць адказу зверху.

Перадвыбарны марафон толькі пачаўся, а разам з ім пачаліся і рознага роду праблемы і непрыемнасці. Гэтага трэба было чакаць.

*М. Пагарэльская*

### ЯК У ВАДУ ГЛЯДЗЕЎ

**Ваенна-юрыдычны апарат быў вышкалены. Такі судзебны апарат ёсць у кожнай дзяржавы, якая стаіць перад агульным палітычным, эканамічным і маральным крызісам. Арэол былой магутнасці і славы абараняўся судамі, паліцыяй, жандармерыяй і прадажнай хеўрай даносчыкаў.**

Я.Гашек "Похождения бравого солдата Швейка"

Слынныя людзі нашага краю

Сафія ТАБОЛА



# САДЯМ СІКОРЫ

**Імя гэтага чалавека назаўжды застанецца ў шэрагу імён лепшых сыноў Беларусі. Ён не меў вышэйшых дзяржаўных узнагарод, у яго гонар не называлі вуліцы і плошчы, імя яго не ўпамінаецца ў школьных праграмах. Больш таго, гэта імя невядома так, як вядомы вынікі яго працы. Мала хто, беручы ў рукі яблык альбо грушу, смакуючы садовыя ягады, любуючыся прыгожымі кветкамі, ведае, што гэта плён яго працы. У асноўным, вядомы ён вузкаму колу спецыялістаў. Але назаўжды на нашай зямлі застануцца сады Івана Паўлавіча Сікоры. Кажуць, што чалавек недарма пражыў жыццё, калі пасадзіў дрэва. Якую ж каштоўнасць мае жыццё чалавека, які пасадзіў цэлыя сады?! Толькі за адзін год Іван Паўлавіч забяспечыў саджанцамі для закладкі садоў 600 калгасаў і саўгасаў і 410 пладоваягадных станцый! А сярод насельніцтва за гады працы садавод распаўсюдзіў 60 тысяч сеянцаў і 50 тысяч саджанцаў.**

❀❀❀

Нарадзіўся Іван Паўлавіч Сікора 19 верасня 1885 года ў вёсцы Алашкі Малыя, што на Шаркоўшчыне. Сям`я не была заможнай, да таго ж даволі шматлікай і невялікі надзел зямлі, які меў бацька Івана Паўлавіча, не дазваляў раскашаваць. Але ў хлопчыка была незвычайная цяга да ведаў, і ён вучыўся. Спачатку скончыў Полаўскае папятовае вучылішча, потым Краснагорскую двухгадовую настаўніцкую семінарыю. Пасля вучобы быў забраны ў царскую армію і ўпершыню апынуўся ўдалечыні ад родных мясцін. 124-ты Усходне-Сібірскі полк, у якім служыў малады беларус, кватараваў у далёкім Хабараўскім краі. Менавіта тут зрабіў Іван Паўлавіч свае першыя крокі ў садоўніцтве. Пачаў вывучаць расліны, збіраць насенне мясцовай флоры, якое пазней прывёз на радзіму. У час службы Іван Паўлавіч працаваў настаўнікам у сібірскім сяле Сатарка-Арлоўка. Там жа ў 1906 годзе пачалася перапіска нашага земляка з Л.М. Талстым. Іван Паўлавіч напісаў ліст вялікаму пісьменніку з просьбай даслаць кніг і атрымаў адказ ад сакратара Чарткова В.Г. Перапіска прадаўжалася. Вядомы чатыры адказы, адзін з іх напісаны асабіста Л.М. Талстым, астатнія сакратаром. У 1907 годзе пісьменнік даслаў Івану Паўлавічу свой партрэт з даравальным подпісам : «И.П. Сикоре. Лев Толстой 9 октября 1907 г.». Вярнуўся І.П. Сікора на радзіму, калі пачалася першая сусветная вайна. Удзельнічаў у ваенных дзеяннях на тэрыторыі Прыбалтыкі. Потым, дэмабілізаваўшыся, вярнуўся ў родныя мясціны, якія пасля Рыжскай дамовы адышлі да Польшчы. Ажаніўся. Бацька выдзеліў маладой сям`і невялікі надзел зямлі -- 1/8 валокі. А Іван Паўлавіч зноў вырашыў вучыцца, і паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы ў Кракаве. Пасля заканчэння настаўнічаў у Глыбоцкім раёне, але хутка быў звольнены за тое, што вучыў дзяцей на роднай мове. Вярнуўся з сям`ёй у родную вёску, пачаў будаваць хату. Атрымаў месца настаўніка ў в. Сямёнавічы. Але працаваў нядоўга, бо зноў звольнілі, і зноў за тое, што выкладаў па-беларуску. Але ж жыць, гадаваць сям`ю было трэба і Іван Паўлавіч наймаецца да пана Пшыздзінскага ў мястэчка Варапаева. Але і адтуль яго звальняюць за тое, што размаўляе з рабочымі маёнтка на роднай мове. І.П. Сікора вярнуўся ў родную вёску. У гэты час адбылося знаёмства Івана Паўлавіча, якое стала паваротным у яго жыцці.

**Яго «віна» была ў тым, што размаўляў ён на роднай мове, марыў пра незалежную Беларусь, самастойную, дзе ўлада была б беларускай, а не польскай, нямецкай альбо рускай.**

**У яго ўсяліліся дзве неразлучныя і невылечныя хваробы: любоў да раслін і любоў да кніг.**

**Яго калекцыя ружаў была прызнана лепшай у Еўропе.**

**Ён быў таленавітым садаводам. Не менш, а мо і больш слынным, чым сам Мічурын.**

**Іван Паўлавіч Сікора -- наш зямляк. Пасадзіце ў сваім садзе ў памяць аб ім яблыньку гатунку “Памяць Сікоры”. Яе плады можна захоўваць да новага ўраджаю.**



“У мяне на ўсё жыццё ўсяліліся дзве неразлучныя і невылечныя хваробы: любоў да раслін і любоў да кніг”
*І.П.Сікора*

Адбылося гэта недзе ў 1920-1921 гадах. У вёску да радні прыехаў вядомы ў акрузе садоўнік Іван Фаміч Атрахімовіч. Ён даваў першыя ўрокі садоўніцтва Івану Паўлавічу: вучыў прыёмам прышчэпу дрэў, апылення, уходу за саджанцамі, шчодра дзяліўся сваімі ведамі і пасадачным матэрыялам. Яны пасябравалі. І з гэтага часу ўсё сваё жыццё займаўся Іван Паўлавіч садоўніцтвам. Увесь свой час і працу прысвяціў ён справе, якую моцна палюбіў, у якую ўкладаў усю душу. Былі праведзены тысячы эксперыментаў, і поспех прыйшоў ужо ў 30-х гадах. Імя садавода становіцца вядомым не толькі сярод удзячных мясцовых жыхароў, але і сярод навукоўцаў. Увесь час І.П. Сікора настойліва вучыцца. З розных куткоў дасылалі яму кнігі і сабраў Іван Паўлавіч вялікую навуковую бібліятэку. Ён вёў актыўную шматлікую перапіску. Сярод адрасатаў прафесар А.С. Грабніцкі, доктар У. Філевіч, Б. Галачынскі, С. Цэліхоўскі, М. Грыгоніз, М. Калачынскі, І. Слязкі, пісьменнікі М. Прышвін, Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі. Яго запрашаюць для навукова-эксперыментальнай працы ў Пулавы (тэрыторыя сучаснай Польшчы), але І.П. Сікора адмовіўся. Да яго прыязджаюць навукоўцы, каб азнаёміцца з працай і дасягненнямі. І не толькі традыцыйныя яблыкі, грушы, слівы растуць у садзе І.П. Сікоры. З'явіліся раней невядомыя ў гэтых мясцінах лімоннік і аралія, элеўтэракок, войлачная вішня і ляўзэя, некалькі гатункаў вінаграду. А яго калекцыя ружаў была прызнана лепшай у Еўропе. Яго гадаванцы ўдзельнічаюць у Еўрапейскіх выставах і атрымліваюць узнагароды, як, напрыклад, створаны садоўнікам махровы бэз, дарэчы, калекцыя гэтай расліны ў садзе налічвала 54 гатункі! І ўсё ж польскія ўлады ставіліся да Івана Паўлавіча з пагардай з-за яго беларускасці, з-за перапіскі з адрасатамі з СССР, з-за нежадання называцца палякам.

1939 год... Заходняя Беларусь далучана да Савецкага Саюза. Іван Паўлавіч прадаўжае сваю справу. Ён ужо вядомы вучоны-эксперыментатар, паспяхова займаецца селекцыйнай працай і раптам вайна... Але навят яна не спыняе апантанай працы садавода. У гэты перыяд

# -КВІТНЕЦЬ!

жыццё вучонага-самавучкі не раз было пад пагрозай. На сям'ю абрынуліся адно за адным няшчасці. Загінуў пад Магілёвам сын Пятро, зяця расстралялі фашысты, памерла ўнучка. А ў час блакады Каз`янскіх партызанскіх лясоў карнікі знішчылі бібліятэку і архіў Івана Паўлавіча...

Вайна скончылася. Садоўнік працаваў не пакідаючы любімай справы. Але і савецкая ўлада выказвала яму недавер, за тое, што выступаў супраць падаткаў на пладовыя дрэвы і пчол (вялікія стаўкі падаткаў даводзілі да таго, што людзі высякалі сады і знішчалі пасекі); за тое, што выгадаваў сына Віктара, шчырага беларуса, якога аб`явілі здраднікам Радзімы (сына арыштавалі 5 снежня, у дзень прыняцця самай гуманнай і справядлівай сталінскай канстытуцыі). Ужо вязнем ГУЛАГа Віктар убачыў мясціны, дзе ў юнацтве служыў бацька. Ён быў па этапу адпраўлены ў Сібір на залатыя прыіскі ў пасёлак Бадайба. Там Віктар Іванавіч пазнаёміўся са знакамітай рускай спявачкай Лідзіяй Русланавай, якая ў той час была аб`яўлена ворагам народа. А «віна» Віктара Іванавіча была ў тым, што размаўляў ён на роднай мове, марыў пра незалежную Беларусь, самастойную, дзе ўлада была б беларускай, а не польскай, нямецкай альбо рускай. Зрэшты, гэта лічылася здрадай пры ўсіх уладах.



Нягледзячы на цяжкасці лёсу, садавод-вучоны Іван Паўлавіч прадаўжаў распачатую справу. І як заўжды вёў шматлікую перапіску. Сярод яго знаёмых пісьменнік Лявонаў, М. Танк, М. Лынькоў, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, беларускі мастак П. Сергіевіч, (які, дарэчы, напісаў партрэт І.П. Сікоры), пісьменнік-зямляк, шаркаўчанін Міхась Машара. Дзякуючы Машару, які аднойчы на прыёме ў П.К.Панамарэнкі расказаў пра вялікія дасягненні садавода-самавучкі, было прынята рашэнне адкрыць паўночны апорны пункт Беларускай пладова-гароднінай доследнай станцыі на базе сада І.П. Сікоры, а сам Іван Паўлавіч быў прызначаны загадчыкам станцыі.

І.П. Сікора не атрымліваў вялікіх грашовых узнагарод за сваю працу. Грошай, якія выдаткоўваліся на ўтрыманне апорнага пункта на год, хапала, каб купіць чатыры вядры, двое вілаў і дзве рыдлёўкі. За ўвесь час працы дзяржава ўзнагародзіла вучонага-самавучку граматамі Вяр-хоўнага Савета і Міністэрства сельскай гаспадаркі. І яшчэ атрымаў садавод вялікі сярэбраны медаль ВДНГ СССР. Толькі ў 1964 годзе, за два гады да таго, як спынілася сэрца Вялікага Беларуса, яму было прысвоена званне «Заслужаны аграном». Іван Паўлавіч з тых людзей, пасля якіх застаюцца не ўзнагароды, а вынікі працы. А яшчэ -- вялікая павага і ўдзячнасць людзей.

Удумайцеся, паважаныя чытачы, у гэтыя лічбы. За гады працы Іван Паўлавіч апрабаваў больш 600 гатункаў яблыкаў, 100 гатункаў груш, 500 -- агрэсту, 119 формаў ляшчыны. Ён вывеў некалькі новых гатункаў яблыкаў, 2 гатункі вішні, 3 -- слівы, 3 -- чарэшні, адзін -- ажыны, 2 -- суніц, і 16 -- арэхаў. Апрабаваў і паменшыў, узмацніўшы смакавыя якасці, 500 гатункаў яблынь, 100 -- груш, 70 -- сліў, 50 -- малін. Пры гэтым толькі адзін гатунак, гібрыд № 1337, названы ў гонар садавода **«Памяць Сікоры»**. Дзякуючы намаганням сына, толькі на гэты гатунак пацверджаны аўтарскія правы! Адбылося гэта 1 сакавіка 1982 года.

Яшчэ ў 1954 годзе ў г. Маладзечна выйшла ў свет невялікая кніжка І.П. Сікоры «Наш вопыт па пасадцы садоў і догляду за імі». З таго часу гэтая брашура ні разу не перавыдавалася і зараз з`яўляецца вялікай бібліяграфічнай рэдкасцю. А пра яе М.А. Лісавенка пісаў: «Гэта маленькая брашура каштоўней многіх таўстых навуковых прац». У Беларусі выдаюцца кнігі па садаводству вучоных з Расіі і іншых замежных краін і да гэтага часу не вывучаны і не сістэматызаваны вынікі працы беларуса І.П. Сікоры. А трэба было б сабраць спадчыну, якая ўцалела ў пажарах вайны, сабраць усё, што яшчэ не загублена, не страчана канчаткова і выдаць асобным выданнем. А спадчына ёсць: у музеі І.П. Сікоры на яго радзіме, які створаны намаганнямі энтузіястаў-краязнаўцаў, у асабістых архівах шматлікіх сяброў садавода і ў дзяржаўных навуковых установах, з якімі супрацоўнічаў І.П. Сікора. Можа, прачытаўшы кнігу вялікага земляка, цяперашнія дзецi



Наш зямляк, садавод і навуковец І.П.Сікора

прадоўжылі б яго справу. У свой час самога Івана Паўлавіча зацікавіла кніга М. Прышвіна «Угнаенне палёў і лугоў» і ён зрабіў адзін тое, што не здолеў цэлы інстытут. Дарэчы, ёсць сведчанні, што жонка М. Прышвіна пасадзіла на магіле пісьменніка дрэва І.П. Сікоры. Толькі на адных крыніцах гэта бэз, а па другіх -- арэхавае дрэва. Дрэва пасаджана ў знак падзякі садавода за кнігі пісьменніка, якія аказалі на Івана Паўлавіча рашаючы ўплыў пры выбары жыццёвага шляху.

На студыі «Беларусьфільм» знята кінастужка «Сказ пра садавода», прысвечаная жыццю і спадчыне І.П. Сікоры, якую ён пакінуў людзям. Але сказ пра садавода яшчэ не скончаны. Мы, яго нашчадкі, у даўгу перад вялікім земляком. І ці не справа гонару земляку прысвоіць аўтарскія правы ўсім гатункам, якія стварыў і падараваў людзям І.П. Сікора? Каб каштуючы «Ананас Беражніцкага», альбо «Антонаўку краснабокую», усе ведалі -- гэта гатункі нашага земляка. І.П. Сікора ў год атрымліваў ад 3 да 5 тысяч пісем і ўсім адказваў, шчодра дзяліўся вопытам. І якой цікавай была б кніга, каб гэты вопыт сабраць! Ён працаваў над метадамі лячэння і амаладжэння дрэў, (як гэта важна зараз, калі сады старэюць), над метадамі абароны садоў ад шкоднікаў без прымянення хіміі. У садзе І.П. Сікоры было каля 200 шпакоўняў, сінічнікаў дуплянак, цэлае «войска» птушак баранiла сад. І.П. Сікора быў адным з ініцыятараў Усесаюзнага руху дзяцей па ахове і дапамозе птушкам. Ён асабіста сканструяваў двухпавярховую шпакоўню і зрабіў да яе чарцяжы. А якімі карыснымі былі б вынікі эксперыменту для малаzямельных дачнікаў! І.П. Сікора здолеў прывіць 36 гатункаў на адну яблыню! Як добра было б, каб мелі мы «Атлас пладовых гатункаў І.П. Сікоры і палепшаных ім іншых гатункаў». Закладваючы сад, кожны мог бы скарыстаць шматгадовы вопыт і адкрыцці вучонага-самавучкі. Бо меў ён пад рукой такі ж мясцовы матэрыял і працаваў «падганяючы» яго пад умовы Беларусі.



Каля маёй бацькоўскай хаты таксама растуць яблыні і грушы І.П. Сікоры. Мне было гадоў шэсць, калі бацькі, збудаваўшыся, вырашылі закласці сад. Восенню 1960 года мы з татам паехалі да Івана Паўлавіча па саджанцы. Вёска Куські дзе мы жылі, прыкладна ў 8-10 кіламетрах ад вёскі Алашкі Малыя. (Толькі назву нашай вёскі скасавалі, не спадабалася камусьці старалітоўская назва). Бліжэй да паўдня прыехалі да садавода. У памяці і зараз засталося захапленне, зачараванне ад бачанага. Вялікі сад: яблыні, грушы (вялізныя, вагой да паўкілаграма), слівы розных гатункаў і на дрэвах, і на зямлі, спелыя, розныя, вялікія, меншыя. Я каштавала іх, дапамагаючы збіраць з долу нейкай жанчыне, надзвычай добрай, ласкавай, здаецца, гэта была дачка І.П. Сікоры. А яшчэ я памятаю кветкі, цэлае мора: рознакаляровыя вяргіні, (суквецці некаторых былі велічынёй з талерку), а яшчэ гваздзікі, аскеры, было шмат кветак, назвы якіх я не ведала. Гэта быў чароўна-прыгожы куток зямлі. Больш такога хараства я не бачы ла да сённяшняга дня. А перад ад`ездам Іван Паўлавіч падарыў саджанец яблыні асабіста мне. Ён сказаў, што гэта малінаўка -- вельмі смачны «дзіцячы» (так і сказаў) яблык. Гэтую яблыньку бацькі пасадзілі пад акном і гадоў праз пяць яна зацвіла. Нават недаспелыя (я нават не дачакалася, калі яны выспеюць) яблыкі былі вельмі смачныя. Гэта яблыня расце і зараз. Яблыкі такія сакавітыя, што іншы раз можна ўгледзець зярняткі ў сярэдзіне плода. А Іван Паўлавіч запомніўся сваёй інтэлігентнасцю. Я тады вырашыла, што ён настаўнік.

І яшчэ ёсць адна яблынька ў бацькоўскім садзе, якую я сама пасадзіла, калі мне было каля 7-мі год. Яна таксама з апорнага пункта І.П. Сікоры. Закладвалі сад у калгасе (у той час імя Жданава) адразу за нашай вёскай і я, гуляючы там, знайшла выкінуты саджанец яблыні. Прынесла дамоў, але дома скасавалі маю знаходку, агледзеўшы, што каля кораня дрэўца падламанае, але я не дазволіла выкінуць знаходку і сама, як сумела, пасадзіла дубчык акурат пасярод агарода. Дарослыя не чапалі яго, магчыма, каб я зноў не пачала плакаць, бо вельмі было шкада яблынькі (дарэчы, дарослыя самі сказалі мне, што дрэўцы жывыя і іх нельга крыўдзіць). Бацькі не зачапілі саджанец, а вясной яблынька стала распускацца! І ўжо тады бабуля дапамагла перасадзіць мне дрэўца ў яблыневы рад. І сказала яна мне пры гэтым, што гэта мая доля. Якая цудоўная вырасла яблыня! Вялікія чырвонабокія восеньскія яблыкі, з добрай лежнасцю і цудоўным смакам! Такія падарункі я атрымала ад Вялікага садавода на ўсё жыццё. І не толькі я, мае дзеці і ўнукі. Зараз, калі тыя яблыні пастарэлі, гадую некалькі дзічкаў, каб прывіць іх сікораўскімі гатункамі.

Некалі, даўно, звяртаючыся да сакратара ЦК КПБ Машэрава, І.П. Сікора пісаў: «Мне 75 гадоў. Я на зыходзе чалавечага жыцця. Мяне не вабяць ніякія матэрыяльныя даброты і ніякая слава. У мяне на ўсё жыццё ўсяліліся дзве неразлучныя і невылечныя хваробы: любоў да раслін і любоў да кніг. Літаратар з мяне не выйшаў, ды я на гэта і не прэтэндую, а



На здымку: Іван Паўлавіч Сікора з сынам Віктарам Іванавічам і ўнукам.

любоў да садаводства мяне хоць чаму-небудзь ды навучыла, і я сёе-тое зрабіў для нашага Беларускага садоўніцтва». Гэта «сёе-тое» -- тысячы пладовых дрэў, дзесяткі новых і палепшаных гатункаў садавіны, якія стварыў садавод і за гэта яму ўдзячны нашчадкі.

Чалавек нумара

# Магістр жыве ў Глыбокім



**Валерый Тарыкаў**

Валерый Тарыкаў -- лекар-псіхафізіёлаг, свядомы беларус. Нядаўна «Міжнародная асацыяцыя народных цаліцеляў», «Міжнародны біяэнергетычны цэнтр нетрадыцыйных метадаў лячэння і дыягностыкі "Лотас-Тэхнакор-Жан"» і «Беларуская асацыяцыя садзейнічання развіццю нетрадыцыйных метадаў лячэння і дыягностыкі» прысвоілі яму вышэйшую міжнародную катэгорыю і выдалі дыплом Магістра Усходняй Медыцыны.

Як сцвярджае Валерый Тарыкаў, яго род, у 49 калене, пачынаецца з іх прапра...бабкі жрыцы Рамаясі, якая жыла ў паўночнай Індыі. Старажытныя веды індускі-жрыцы ён і выкарыстоўвае.

Яго брат Алег, які, на жаль, заўчасна адышоў у лепшы свет, прысвяціў Глыбокаму краязнаўчую кнігу "Світанкі ў праддонных азёр". Як заўважыў сам Ва-лерый, яго прозвішча паходзіць з арабскай мовы: "эль тарык" -- пісар. Напэўна, адсюль і схільнасць роду Тарыкавых да краязнаўства, паэзіі, медыцыны і спазнання Сусвету.

Зрэшты, у мясцовай прэсе ["Веснік Глыбоччыны1996 г. № 74 (7552), "Таямнічая Туркаль"] я ўжо згадваў імя Валерыя Тарыкава. Там паведамлялася, што Валерый з дапамогай матэматычных формул, па маёй просьбе, зрабіў спробу расшыфраваць сэнс загадкавага сімвала ў выглядзе васьмікутнай свастыкі, які выбіты на камені непадалёк ад Глыбокага.

Як лічыць Валерый Тарыкаў, яму ўдалося прачытаць Фестскі дыск, які знайшлі ў 1908 годзе на выспе Крыт італьянскія археолагі. Было шмат спробаў у розных краінах расшыфраваць таямнічыя сімвалы, якія нане-сены на гэтым дыску. Эксперты палічылі іх няслушнымі. Выказвалася меркаванне, што ў бліжэйшыя некалькі стагоддзяў нікому не пашанцуе спасцігнуць іх таямніцу.

На Сусветным кангрэсе дзеячоў культуры **"Вынікі тысячагоддзя"**, які адбыўся 21 -- 23 лістапада 2000 года ў Таўрычаскім палацы г. Санкт-Пецярбурга, даклад Валерыя Тарыкава, прысвечаны расшыфроўцы надпісаў на Фестскім дыску, для многіх прысутных падаўся вартым увагі. Выказвалася меркаванне, што высновы, якія зрабіў сп. Тарыкаў, годныя апублікавання і ў салідных міжнародных часопісах. Паводле прачытання дыску з дапамогай матэматычных формул глыбоцкім энтузіястам -- наім пакладзена Таямніца Светаўтварэння, пасланне з Сусвету. Як сцвярджае Валерый, ім расшыфраваны запіс праграмы эвалюцыйна-біялагічнага развіцця чалавецтва на наступныя 1000 гадоў. У гэтым тэксце пададзены напрамкі развіцця новых навук, новыя ўяўленні аб відах часу, адкрыты новы від біялагічнай энергіі.



Працяг паглыбленай працы над тэкстамі Фестскага дыску будзе працягвацца і надалей. Матэрыялы Фестскага дыску носяць прыкладны, паслядоўны характар развіцця як цывілізацыі, грамадства, так і індывідуума, раскрываюць патэнцыял чалавека і законы развіцця грамадства.

**Валерый Тарыкаў мае запрашэнне на снежань 2001 года ў Францыю на міжнародную канферэнцыю, якая прысвечана 500-ым угодкам ад нараджэння славутага прадказальніка Мішэля Настрадамуса. Да 1 лістапада гг. трэба адправіць даклад. Толькі вось ці знойдзе ён фундатара на гэтую паездку?**

*Уладзімір Скрабатун*

# Краязнаўцы сабраліся ў Браславе

**20 мая ў Браславе адбыўся семінар прадстаўнікоў краязнаўчых арганізацый Віцебшчыны, у якім прымалі ўдзел госці з Глыбокага, Пастаў, Шаркоўшчыны, Лёзна, Полацка і Віцебска. Семінар быў арганізаваны Браслаўскім краязнаўчым таварыствам імя О. Хедэмана – рэгіянальнай грамадскай арганізацыяй, якая створана ў 1989 годзе пры Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі.**

Прадстаўнікі рэгіёнаў абменьваліся доследам працы сваіх краязнаўчых арганізацый, быў арганізаваны круглы стол, за якім абмяркоўваліся праблемы, звязаныя з краязнаўчай дзейнасцю. У другой палове дня ўдзельнікі семінару наведалі Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей, а таксама музей традыцыйнай культуры. У гісторыка-краязнаўчым музеі багатыя экспазіцыі знаходак з часоў заснавання Браслава да другой Сусветнай вайны. Асобная экспазіцыя прысвечана знаходкам, знойдзеным у апошнія часы. Сярод такіх знаходак -- статуэтка, характэрная для раскопак пахаванняў у Егіпце. Як гэта рэч трапіла на Браслаўскую зямлю – невядома. Магчыма, яе прывёз, як сувенір з Еўропы, дзе яны прадаваліся ў антыкварных лаўках, нейкі мясцовы памешчык. У музеі традыцыйнай культуры прадстаўлены вырабы мясцовых майстроў: мастакоў, разьбяроў па дрэву, ткачых, ганчароў. Можна было пабачыць некаторых майстроў непасрэдна за працай. Так ганчар Валерый Зінкевіч на вачах прысутных літаральна за некалькі хвілін з кавалка гліны на ганчарным коле зрабіў прыгожы збанок.

Пасля наведвання музеяў удзельнікі семінару пабывалі на Замкавай гары, месцы дзе і быў заснаваны старажытны Браслаў.

Была арганізавана экскурсія па маршруце Браслаў – Слабодка. З акна турыстычнага аўтобуса адкрываліся маляўнічыя краявіды Браслаўшчыны. На працягу дзесяцікіламетровага шляху цягнулася амаль суцэльная блакітная стужка азёр. Браслаўшчына – край азёр, іх тут каля двухсотпяцідзесяці. У час паездкі экскурсавод расказваў пра багатае гістарычнае мінулае гэтага краю, а таксама легенды і паданні, звязаныя з гэтымі непаўторнымі па прыгажосці мясцінамі. Напрыканцы экскурсіі ўдзельнікі семінару пабывалі ў касцёлах Браслава і Слабодкі. У Браслаўскім касцёле ўсе мы атрымалі ў падарунак тканінныя выявы з выявай іконы Маці Божай Валадаркі Азёраў. Скончылася мерапрыемства сяброўскай вечарынай у размовах і з песнямі.

*В.Саланінка*
*карэспандэнт "ВГ"*

**На Замкавай гары ў Браславе**



Фота Васіля Саланінкі

**Уважліва прачытай, калі ласка, гэтыя радкі, паважаны чытач! Гэта сутнасць тэорыі, аўтарам якой з'яўляецца англічанін, які жыў 200 гадоў таму назад. У 1877 годзе ў Лондане была заснавана ліга мальтузіянцаў. І вось ужо два стагоддзі гуляе гэтая тэорыя на зямлі - самае страшнае нараджэнне чалавечага розуму. Яна дазваляе і апраўдвае прыніжэнне і знішчэнне чалавека, сцвярджаючы, што сацыяльная няроўнасць, несправядлівасць неліквідныя і называе такую выснову законам прыроды. Ужо два вякі ўсялякія падонкі, чалавеканенавіснікі ўздымаюць на шчыт гэту "тэорыю-вучэнне". Яго "абнаўляючы", "падпраўляючы", "падганяючы пад бягучы момант", падмалёўваючы, зыходзячы са становішча. Але сутнасць - вучэння" не змяняецца. Дзякуючы яму, апраўдваюць войны, рабства, прыгнёт чалавека чалавекам.**

# Тэорыя Мальтуса і дзень сённяшні

Фашысты аб'явілі арыйскую расу найвышэйшай, значыць, іншым народам (ніжэйшым расам) прырода не адвяла "жыццёвай прасторы", і яны не маюць права на жыццё без дазволу прадстаўнікоў "вышэйшай" расы? "Ніжэйшыя расы (другога гатунку) не згодны з гэтым". Значыць, іх трэба знішчыць. І ў гэтым - мудрасць тэорыі.

Крыжовыя паходы апраўдваліся "няправільнай" верай іншых народаў. Бальшавікі - ўстанаўлівалі сацыяльную справядлівасць масавымі рэпрэсіямі, знішчаючы спачатку багатых, потым "ворагаў народа" ў імя светлай будучыні астатніх.

Не, ніхто з іх не прызнаваўся, што дзейнічае згодна мальтусаўскай тэорыі. Але іх дзеянні выходзілі з гэтага вучэння. Толькі яны ніколі чамусьці не тлумачылі чаму месца - на вялікім банкеце прыроды" адпускаецца арыйцам, а не яўрэем, белым, а не неграм, бальшавікам, а не - ворагам народа". Гэта выдаецца за аксіёму. Лішніх, каб не прасілі, а тым больш не патрабавалі работы і хлеба, знішчалі. Гэтая тэорыя аказалася вельмі жывучай. Зноў і зноў прыжываецца яна, знаходзіць глебу там, дзе трэба апраўдаць насілле, няздольнасць кіраваць краінай, немагчымасць забяспечыць народу нармальнае жыццё.

Ты бедны, хворы, нямоглы - сам у гэтым вінаваты. Ты нарадзіўся лішнім, а таму павінен знікнуць, а не штосьці там патрабаваць - гэта закон прыроды. І калі цябе хто прыніжае, здзекуецца над табой - ён мае на гэта права, і яно дадзена яму прыродай, бо ён багаты, (дужэйшы, займае кіруючую пасаду, верыць у "лепшага" Бога, мае лепшы колер скуры або прыгажэйшыя вочы - прычыны "вышэйшасці" можна доўжыць і доўжыць). І гэтыя "перавагі" даюць яму месца пад сонцам, а табе не. Падумай, паважаны чытач. Ці не сустракаецца хто з Вас з гэтай "тэорыяй" сёння? "Беларусы жывуць бедна таму, што дрэнна працуюць, а, значыць, не маюць права патрабаваць", - вы не чуеце ў гэтых словах мальтусаўскага - самі вінаватыя"? Працуйце лепей. Дзеці жабракі? А хто вінаваты? Ды іх бацькі-п'яніцы,а галота не павінна пладзіцца. Ты хворы, табе патрэбны лекі, а купіць сам не можаш? Ты лішні. Эканоміка не дазваляе забяспечыць цябе, хоць і працуеш узорна, з кожным годам усё лепш і лепш, дарэчы, як такое можа быць: эканоміка паляпшаецца, а людзі пра-цуюць дрэнна? - значыць, ты баласт, а баласт моцным, здаровым не патрэбен, эканоміка яго не ўлічвае.

Не ведаю як вам, а мне страшна ўсё гэта бачыць і чуць.

З гэтай тэорыяй змагаліся лепшыя людзі планеты. Вынікам стала - Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека", якая пачынаецца словамі: - Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах.Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва".Таму не важна за кім мы пойдзем: за Усходам або Захадам; не важна, як будзе называцца дзяржаўны строй краіны, якім - ізмам". Важна, якія прыярытэты будуць у кіраўнікоў, чым яны будуць кіравацца: тэорыяй Мальтуса або "Дэкларацыяй правоў чалавека"? А кіраўнікоў, згодна Канстытуцыі, мы выбіраем самі.

*Сафія Табола, в. Заазерцы,*
*Шаркоўшчынскі раён*

Горкі гумар

# ЖЫВЁМ, ЯК МОЖАМ?

Што за жыццё ў нас? Пры камуністах жылі -- самі з сябе смяяліся, пры дэмакратах жывём -- з нас усе рагочуць. Дзе б крок ні ступіў -- саміх дурны смех парывае, бо ад парадкаў, якія пануюць у нашай краіне, можна алунець без наркотыка. Ні гадзіны, ні хвіліны спакойнага жыцця. Куды не ткніся -- камедыя, куды не павярніся -- фарс...

Кожны дзень, кожную хвіліну нешта ў некага трэба прасіць, прычым, нават тады, калі маеш грошы; даказваць, што ты не вярблюд -- хоць і гарбаты, хоць і плюешся ад нашага жыцця, але ж, паглядзіце, на дзвюх нагах...

Палітыка, як тая дзеўка кручоная, -- хто болей дасць, пад таго і ляжа

Хутка дзень прастытуцыі стане агульнанацыянальным святам беларусаў, бо прадаюцца ў нас ужо не толькі жанчыны.

Эканоміка ў нас шматукладная -- укладваем у яе шмат, а атрымоўваем голы кукіш.

Самым папулярным лозунгам дня сённяшняга для радавых беларусаў сталі радкі вядомага літаратурнага героя: «Нам бы день прожить да до вечера продержаться».

Цэны такія, што ўбачыш, уздыхнеш глыбока і не дыхаеш, як на флюрографе. Некаторыя пакупнікі цэн не разбіраюць, бо з нулямі справіцца не могуць. Каб вырашыць гэтую праблему, трэба побач з магазінамі харчовых тавараў будаваць магазіны «акуляры», а з другога боку -- аддзелы рэанімацыі, бо з нашымі заробкамі, схадзіўшы ў краму, толькі туды і дарога...

«Лучом света в тёмном царстве» называе большасць з нас дні авансаў і зарплат.

У школах побач з аб`явамі і раскладам ўрокаў вісіць выпіска з кодэкса крымінальнага права. Ці было што падобнае, калі ў школах выкладалі Закон Божы?

А паглядзіце які ў нас сэрвіс? Няма грошы -- гыркаюць. Маеш грошы -- тое самае. Прыходзіць чалавек на ранішні віцебскі аўтобус, падае пяць тысяч на білет, а касірка са злосцю: «Дайте мне нормальные деньги». Круціць чалавек купюру, ламае галаву: чым жа яго грошы ненармальныя? Аказваецца, у касіра няма чым даць рэшту. Замест таго, каб ветліва папрасіць чалавека ёй дапамагчы, касірка звальвае на яго віну: «Гэта вашы праблемы». Але прабачце. Мае праблемы грошы зарабіць, а вашы -- ветліва разлічыць. А можа ў кошт білета закласці дадатковую суму -- плату за свой настрой, які ніхто не




сапсуе?

А вазьміце нашы цягнікі. Што робіцца ў плацкартным вагоне? Незнаёмыя мужчыны, жанчыны, апусціўшы вочы долу, здымаюць блузкі, штаны, пераапранаюцца ў начнухі і робяць выгляд, што ім камфортна і зручна. А можа яны гэтага не прыкмячаюць? Падобная паездка -- не паездка, а калектыўны секс-шоп-тур, прыдуманы ў савецкія часы. Чаму няма купейных вагонаў для тых, хто мае грошы, хто хоча сапраўднага камфорту, спакою, хто так і не прызвычаіўся да калектыўнага пасмешша пад назвай плацкартны вагон?

Хоць і жывём мы ў XXI стагоддзі многія прадукты харчавання ў нас па-ранейшаму толькі двух гатункаў: учарашнія і пазаўчарашнія. Добра, што не леташнія. Чаму? Дакуль?

Туалеты сталі платныя. Няхай сабе, чысціні больш. Здаецца, заплачу грошы -- хоць аблегчуся спакойна. Дзе там! Выдаючы квіток, касірка абураецца і жаліцца, што нехта несумленны падсунуў ёй «пяцёрку» старога ўзору. Ідзеш у кабінку, праз хвіліну гвалт: «Зноў ваду не выключылі». Тут не тое, што аблегчышся раней чым трэба, але і заікай станеш.

Хтосьці, прызвычаіўшыся да савецкіх ільгот, патрабуе ў платным туалеце: «А мне 50%-ая скідка. Я -- пенсіянерка»...

Без папярэдняй аб`явы ў нас за ноч мяняюцца тэлефонныя коды...

Адзін плюне на ўсё і не звяртае ўвагі, другі на вус матае ды дапытваецца: «Чаму так у нас? Так быць не павінна».

У Віцебску на дзвярах універмага, каб пакупнікі ў іх не біліся, напісана *«К себе»*. Шыльда пры ўездзе ў горад сведчыць: «Новаполацк». Няўжо не знайшлося нікога, хто б спачатку выбраў мову, беларускую ці рускую, а пасля правільна на ёй напісаў? А паглядзіце, якія разумныя дакументы выдае на-гара наш урад. Напрыклад, «О порядке *сношения* дипправительств с министерством иностранных дел или местными органами власти». Няўжо «дипправительства» не могуць наладзіць звычайныя ўзаемаадносіны (взаимоотношения), а толькі «сношения»?

Як бы ў падтрымку падобных «перлаў» чытацкія звароты ў рэдакцыю: «Подскажите куда обратиться, если несправедливо ущемил в чём-либо работник милиции»?

Такое ўражанне, што ўсіх нас недзе ў нешта «ущемили». І гэтую «ущемлённость» мы спаганяем на іншых. Неяк летам пачула размову дзвюх жанчын. Адна кажа: «Мой унук цэлае лета быў на пляжы».

-- А што ён так доўга там рабіў? -- пытае другая.

-- На сонцы грэўся.

--Ён што ў цябе хворы?

-- Ды не, багаты...

Можа і добра быць багатым. У чужой краіне, пад цёплым сонцам адчуць сябе чалавекам, якога паважаюць і за тое, што ён чалавек, і за яго грошы. У сваёй жа краіне, дзе абсурд на абсурдзе і абсурдам падганяе, без нерваў не жыве ніводзін: ні жабрак, ні багач.

***Галіна Сутула.***

---

Да дня вызвалення Беларусі

# Чатыры бярозкі

На скрыжалях лёсу

**... Люты 1943 года. Вёска Лучайка. Сям`я Мірош Нікандра ні аб чым не здагадвалася. Селі снедаць, а немцы ўжо пад`язджалі да хаты. Акружылі яе, увайшлі. Арыйцы заўсёды вылучаліся дзелавітасцю, пунктуальнасцю і акуратнасцю. Знямеўшая ад жаху, сям`я моўчкі сачыла за дзеяннямі акупантаў. Немцы дасталі спіс членаў сям`і, пералічылі па галовах. Усё сышлося -- чатыры душы.**

...Страляў паліцай, фашысты толькі моўчкі назіралі за выкананнем прысуду. Для іх гэта была звычайная, надзённая шэрая справа.

Лёг на падлогу з прабітай галавой гаспадар, яго жонку Алену забілі ляжачай без прытомнасці (яна здранцвела ад страху і асунулася ля печкі, як толькі чужынцы ўвайшлі). Наступная куля абарвала жыццё маленькай дачкі Фаіны васьмі гадоў. На печцы лямантавала ў роспачы яшчэ адна жанчына. Няшчасная за хвіліну да смерці спрабавала даказаць, што яна не з гэтай сям`і, прышлая, нават не радня, чужая. Стрэл прагучаў -- яна заціхла назаўсёды.

... Чацвёртай у спіску гэтай сям`і была Валянціна Мірош, старэйшая дачка гаспадара. Яна яшчэ не ведала, што ў гэты момант забіваюць яе сям`ю. але недзе там, у небе, свяцілася зорка лёсу, якая дала Валі шанц выжыць.

Так здарылася, што дзесьці за два тыдні да жахлівай трагедыі Валю Мірош бацька адправіў да роднай цёткі ў вёску Валодзькава (што каля Гатаўшчыны). Валянціна дапамагала ёй з гаспадаркай, падрабляла сабе і сям`і на жыццё. У хату да Мірош Нікандра наведваліся партызаны -- ім ноччу пяклі хлеб. Знайшоўся добразычлівец з мясцовых і падказаў у паліцыю аб начных візіцёрах.

Калі Валі паведамілі аб тым, што яе сям`я расстраляна, дзяўчына спрабавала дабрацца дамоў, паспець хоць пахаваць родных. Не паспела, якраз пачалося разводдзе, не было магчымасці дайсці. Праз колькі дзён яна ўсё ж прыйшла да роднай хаты. Пастаяла каля брацкай магілы. Напэўна, лезлі ў галаву страшныя думкі: "Тут, у яме, павінна ляжаць яна, замест той няшчаснай жанчыны, што выпадкова заначавала ў хаце перад трагедыяй".

Потым Валя... пакрочыла ў гміну -- валасную ўправу. Уявіце сабе, што гэта азначала: адзіная, якая засталася жывой з сям`і, што была звязана з партызанамі, ідзе ў паліцыю. Што яе чакала за тым ганкам: арышт, катаванні, расстрэл? Але здарыўся цуд: ярчэй засвяціла ў небе Валіна зорка лёсу.

У гміне дзяўчыну выслухалі, моўчкі ўзялі спіс сям`і, праверылі -- чатыры душы -- усе расстраляны. Паглядзелі на яе дзелавіта і сказалі: «Ідзі, жыві. План выкананы, ты нам не патрэбна».

«Пунктуальнасць» нямецкага парадку ўражвае і становіцца дзіка ад думкі, наколькі бесчалавечна працавала гэта машына: было чатыры -- забіта чатыры і замест цябе -- адзін чужы? -- ды Бог з ёю! -- норма ёсць, крыжыкі пастаўлены -- ідзі, жыві, радуйся...

Жыла з боллю ў сэрцы, з акрываўленай памяццю. У родны дом не вярнулася -- страшна пахла смерцю. Прытулілі дзядзька з цёткаю. Праз які месяц зноў перажыла жах.

... Сакавік 1943 года. Корпалася ля хаты. Раптам трэск матацыклаў, скрозь рассыпалія немцы ў мышынай форме. Ачапілі вёску, людзей выпхнулі на вуліцы, пагналі пад Сасноўку. Валя не баялася (дзіўна!), сэрцу ўжо было ўсё роўна. Дасталася ў спіну прыкладам вінтоўкі. Прывялі ўсіх да хаты Жука Уладзіміра. У двары стаяў яго сын Мечыслаў з абгарэлымі рукамі (ноччу ён з партызанамі выпадкова трапіў у засаду, выжыў і збег дамоў). Немцы трымалі Мечыка, а з хаты пачалі выводзіць яго родных. Вялі парамі ў паветку, на вачах сына і сагнаных жыхароў забівалі. Зноў жа (!) страляў паліцай, фашысты толькі стаялі ланцугом і назіралі. Паліцай быў той самы(!), што забіў сям`ю Валі. Яна і сёння памятае яго -- здаровы, плячысты, чарнявы. Рукі мужчын звыклі трымаць плуг, сякеру, касу... Гэты ж выradак любоўна трымаў вінтоўку, здзекліва глядзеў у вочы землякоў, разумеў іх крыкі і просьбы аб літасці і ... акуратна, спакойна страляў. Нелюдзь «палажыў» пад паветкай усю сям`ю -- 6 чалавек. Мечыка немцы забралі з сабой, у Беразвеччы яго дапытвалі, катавалі. Расстралялі 28 сакавіка...

Жыццё працягвалася. Чалавек, наогул, дзіўная істота. Глядзіць у вочы смерці, сэрца вытрымлівае жахі, нервы ледзь трымаюцца, але жыве. Толькі на сэрцы неўпрыкмет з`яўляюцца рубцы ад перажытага гора і трагедый.

Пасля перанесеных няшчасцяў Валянціна засталася жыць у роднай вёсцы. Неўзабаве выйшла замуж. Дзіўны гэта быў шлюб: ёй --15 гадоў, мужу -- 25. Іх звязаў цяжкі лёс ваеннага ліхалецця, імкненне выжыць і сапраўднае каханне. Пасля выгнання акупантаў у ліпені 1944-га мужа забралі на фронт. Служыў у Мурманску, у маі 1945-га вярнуўся дадому.

Потым з`явіліся на свет дзеці -- двое сыноў. Зараз Пачопка Валянціне Нікандраўне 73 гады. Яна мае на дзіва ясную памяць пра мінулае. Прага да жыцця не пакідае гэтую цудоўную жанчыну: жывая, рухомая, гаваркая, вясёлая. Праўда, няма ўжо гаспадара ў хаце -- памёр яе муж, якога яна вельмі кахала і шанавала.

Баба Валя дагэтуль носіць у памяці вобразы мілых бацькоў і сястрычкі Фані, што загінулі ў лютым 43-га. Яны часта сняцца ёй. Дома ў яе захаваўся толькі адзін фотаздымак матулі: 1915 год, трое дзяўчатак (у цэнтры Алена Мірош) побач з бравымі хлопцамі ў вайсковым адзенні царскай арміі.

Зорка шчаслівага лёсу па-ранейшаму ззяе над Валянцінай Нікандраўнай.

А за вёскай, метрах у пяцістах, у чыстым полі стаіць помнік на месцы трагічнай гібелі сям`і Мірош. І растуць каля яго чатыры бярозкі, і верыцца, што радуецца душа Нікандра за тое, што ў тую жахлівую раніцу не аказалася Валянціны дома. А сёння па зямельцы тупаюць яе ўнукі і праўнукі.

***Р. Шарыпкін**, настаўнік Лучайскай БШ, краязнаўца.*

**Гістарычная даведка:**

**Расстраляны ў лютым 1943 г:**

**Мірош Нікандр Іванавіч**, 42 гады,
**Мірош Алена,** 40 гадоў,
**Мірош Фаіна,** 8 гадоў,
**Сапрон Варвара**.

**Расстраляны ў сакавіку 1943 г:**

**Жук Уладзімір Ігнатавіч,** 48 гадоў,
**Жук Аляксандра Усцінаўна**, 45 гадоў,
**Жук Віктар Уладзіміравіч,** 23 гады,
**Жук Часлава Уладзіміраўна,** 13 гадоў,
**Жук Ксенія Уладзіміраўна,** 8 гадоў,
**Жук Вагдалена,** 30 гадоў,
**Жук Мечыслаў Уладзіміравіч,** 20 гадоў

## Цытата апошняй паласы

**Где лгут и себе и друг другу,**
**И память не служит уму,**
**История ходит по кругу**
**Из крови – по грязи – во тьму.**

*И.Губерман*

## Газета "Дзень" вітае чытачоў

Прайшло каля трох месяцаў, як у Мінску пачала выдавацца новая рэспубліканская грамадска-палітычная газета "Дзень". Яе наклад – 5 тысяч. На газету ўжо можна падпісацца, яе індэкс – 63122. Набыць новае выданне можна ў кіёсках "Саюздруку". Кожны нумар каштуе 75 рублёў. Выходзіць тры разы на тыдзень. Галоўны рэдактар газеты – Аляксандр Тамковіч. Што датычыць накірункаў работы выдання, то па словах намесніка рэдактара А.Гуляева: "Дзень – гэта не выданне крайніх поглядаў. Гэта газета большасці, якая насычана самай рознай інфармацыяй з розных сфер жыцця… Мы не прадстаўляем інтарэсы ніякіх палітычных партый… На нашых старонках выступаюць па самых актуальных праблемах і прадстаўнікі улады, і вядомыя палітыкі апазіцыі. Патрабаванне адно: не хлусіць!

Газета "Дзень" чакае сваіх чытачоў і аднадумцаў.

*Я.Савойка*

## Нашы беспрацоўныя эмігранты жывуць лепш, чым працоўныя ў Беларусі

Сёння многія беларусы з'язджаюць за мяжу не таму, што збрыдзіліся сваёй радзімы, а таму, што жыць дома немагчыма. Нашы суайчыннікі з адукацыяй і без яе прыстасоўваюцца да новых умоў жыцця і асядаюць, гняздзяцца ў Канадзе, Аўстраліі, Амерыцы, Швецыі, Германіі. Не гультаі ад нараджэння, яны праз год-другі зарабляюць на годнае жыццё сабе, сваёй сям'і і памнажаюць дабрабыт краіны, якая, хоць і мачаха, а прытуліла, як маці, дала не толькі шанц, але і надзею чала-векам звацца.

Па першасці перасяленцы і эмігранты пакутуюць без ведання мовы, сяброўскай падтрымкі, знаёмых, часта і без грашовых сродкаў. Але ніводная краіна не пакідае «прышлых» без кавалка хлеба і нясе адказнасць за іх лёс. Так, у Германіі эмігранты, якія не змаглі знайсці працу, атрымоўваюць датацыю на харчаванне: гаспадар - 540 марак у месяц, жонка - 432 маркі, дзеці з чатырох гадоў - 279, больш за 10 год - 350 марак. Другая датацыя -- на жыллё і камунальныя паслугі. Норма ў Германіі на аднаго чалавека - 45 квадратных метраў плошчы, на двух чалавек - 60, на трох - 75. Дзяржава аплочвае эмігрантам не толькі арэнду жылля і яго рамонт, але і набыццё мэблі, бытавой тэхнікі. Акрамя гэтага сацыяльныя ведамства Германіі выдае бонусы тым, хто мае ў іх патрэбу Бонусы - гэта грошы на навучанне ці павышэнне кваліфікацыі, моўную падрыхтоўку, аплату медпаслуг, на адпачынак у санаторыі ці на ўстаўку зубоў. Ёсць і аднаразовыя выдачы сродкаў, напрыклад, для пакупкі адзення на пэўны час года альбо на мадэрнізацыю жылля. Могуць выдаць і разавую дапамогу для "падтрымання культурнага ўзроўню". Акрамя ўсяго сем'ям эмігрантаў штомесячна выдаюць па 5-10 марак на набыццё прэзерватываў. Калі ў вас вяселле ці якая іншая сямейная урачыстасць, дзяржава дасць грошы і на гэта. Да таго ж сацыяльнае ведамства пастаянна шукае эмігрантам працу. І калі ад прапанову адмаўляцца, памер сацыяльных выплат можа быць зменшаны. Калі параўнаць памеры сацыяльнай дапамогі ў адну-дзве «мінімалкі» (каля 12 тысяч рублёў), што выдае наша родная краіна працоўным беларусам, робіцца і горка, і сумна. Германія не казырае клопатам пра чалавека. Яна проста дапамагае чалавеку жыць годна. Наша ж дзяржава, выплочваючы мізэр, не сароміцца ставіць гэта сабе ў заслугу і з вуснаў не спускае «клопат пра чалавека». Навошта пустыя словы?

*М.Вярцінскі*

**В ✝ П**

**Глыбоцкая раённая Рада і Заварацкая суполка БНФ "Адраджэньне" смуткуе з прычыны заўчаснай і трагічнай смерці ЯНЦЭВІЧА Мікалая Аляксандравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім памерлага.**

Старайся і дойдзеш».
(старадаўняя беларуская прымаўка)

# Наша гісторыя, яе звычаі і абрады

Як вядома, хрысціянства прыйшло на тэрыторыю Беларусі каля 1000 гадоў таму назад. Але тыя звычаі і абрады, якія існавалі яшчэ за «паганскім» часам, захоўвалі сваю жыццяздольнасць на працягу многіх стагоддзяў. Абрады і звычаі насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага закраналі самыя розныя бакі грамадскага жыцця: гэта справы палітычныя, сельскагаспадарчыя, барацьба з хваробамі, любоў і г.д.

Здаўна ў народных поглядах заставаліся напалову язычніцкімі адносіны да таінства шлюбу. Так, яшчэ да паловы XVIII ст. здараліся выпадкі, калі людзі лічылі, што могуць разарваць шлюбную сувязь з дапамогай абраду, які меў назву «разлука». Сутнасць абрада ў тым, што муж і жонка, якія не ўжыліся паміж сабой, склікалі бацькоў і бліжэйшых родных і ў іх прысутнасці выказвалі прычыны хатніх сварак і абодва бакі прасілі бацькоў скасаваць іх шлюб. Калі апошнія былі згодны задаволіць іх жаданне, то бацька ці бліжэйшы родны мужа падаваў руку яго жонцы, а бацька жонкі ў той жа час падаваў руку мужу. З гэтага і складаўся ўвесь абрад. Разведзеныя бакі лічыліся асабіста вольнымі і атрымоўвалі права ўступаць у паўторны шлюб.

Не аднойчы на землях Беларусі распаўсюджвалася такое захворванне як чума (паморак). Продкі сучасных беларусаў звычайна апелявалі да Бога ці да іншых звышнатуральных сіл.

Збіраліся, напрыклад, дзяўчаты позна вечарам у хаце. За ноч яны павінны былі саткаць палатно, з якім з узыходам сонца яны хадзілі і тужліва спявалі вакол вёскі. Пасля пад палатном, якое трымалі ў руках, разводзілі касцёр з трэсак, што прыносілі з кожнага двара. Праз своеасаблівую вогненную браму павінен быў прайсці кожны жыхар. Напрыканцы, на кастры спальвалі і само магічнае палатно.

На жаль, усё цяжэй адшукаць старадаўнія легенды, паданні, абрады, знікае старое пакаленне, якое жыло яшчэ па-за савецкім часам. А «камуністычны рай», на жаль, не падараваў беларусам ні цікавых звычаяў, ні абрадаў.

*А.Шэлепень, г. Глыбокае*

# Беларусі далёка да Эстоніі

На плошчы Эстонію можна параўнаць з Віцебскай вобласцю, а эстонцаў у краіне менш, чым беларусаў у Мінску.

З карысных выкапняў тут сланец, які на рынках каштуе танна, а яго здабыча дарагая, ды фасфарыты. Праз Эстонію не ідуць транзітныя шляхі. Здавалася б, не пашчасціла краіне.

Але, нягледзячы на збег неспрыяльных геаграфічных абставін, Эстонія – развітая краіна, дзе назіраецца размеранае, сытае жыццё. Сярэдняя зарплата працуючых 800-100 DM, пенсія 250-350, а прадукты, за выключэннем хлеба і малака, каштуюць танней, чым на Беларусі. Дарагая кватпліта. Так, за аднапакаёўку ў месяц трэба заплаціць 60-80 DM, але малазабяспечаным сем'ям ёсць датацыі.

Экспартам і прыбыткам краіны стала машынабудаванне, электроніка мясамалочная прамысловасць. Ва ўсіх сферах вытворчасці назіраецца здаровая канкурэнцыя, якая дапамагае і якасці жыцця, і руху наперад.

Асноўны від сувязі ў Эстоніі – мабільная сувязь. Даходзіць да таго, што па мабільным тэлефоне званіць выгадней, чым па звычайным. Падключыць інтэрнэт і карыстацца ім не каштуе нічога. На мясцовых і гарадскіх лініях засталіся 3-4 "Ікарусы" на ўсю Эстонію. Увесь транспарт абноўлены, на лініях камфартабельны аўтобусы замежнай вытворчасці. У Эстоніі пабывалі многія эстрадныя "зоркі". У краіне вялікі выбар піва, кошт на яго ў два-тры разы меншы, чым у нас. Традыцыяй стала правядзенне піўных фестываляў і еўрапейскіх чэмпіянатаў феерверкаў…

У Эстоніі чыстыя, прыгожыя, утульныя гарады. Эстонцы паважаюць сябе, сваю краіну, родную мову, звычаі і традыцыі, давяраюць свой лёс разумным палітыкам. А таму з кожным днём, месяцам, годам жывуць лепш. Беларусам застаецца толькі пазайздросціць былой савецкай "сяброўцы".

*Т.Гароўская*

## Салямі не па кішэні



У магазінах зараз вялікі выбар каўбасных вырабаў, але пакупнікі кучкуюцца ля прылаўкаў тады, калі "выкідваюць" у продаж кравяную ці ліверную каўбасу альбо субпрадукты. У Докшыцкім раёне апошніх рэалізавалі 21 тону, а каўбас -- 164 тоны. Вострая канкурэнцыя з прыватнымі нарыхтоўшчыкамі прымушае дзяржаўныя прадпрыемствы пашыраць пералік дадатковых паслуг тым, хто здае мяса. Зараз па жаданні здатчыкаў мяса могуць перапрацаваць на фарш альбо вярнуць гатовай прадукцыяй ці вэнджаным.

*У.Шык*

## Улады Шаркоўшчыны не вераць, што ў іх з'явіліся «Зубры»

**«Зубры», якія нядаўна аб'явіліся ў Шаркоўшчыне, за некалькі летніх дзён распісалі ўвесь горад і абляпілі яго налепкамі, закідалі паштовыя скрыні жыхароў райцэнтра, а таксама дворы жыхароў вакольных вёсак, спецвыданнямі.**

Мясцовыя ўлады не хочуць верыць, што зрабілі гэта мясцовыя хлопцы. Ходзяць чуткі, што «Зубры» прыязджаюць з Глыбокага (30 км. ад Шаркоўшчыны) уночы і працуюць пад покрывам цемры. Аднак, мясцовых міліцыянераў папярэдзілі, што ніхто з іх не пойдзе ў водпуск, пакуль «Зубры» не будуць знойдзены.

*Алесь Беркут, «НВ»*

## Бясплатныя прыватныя абвесткі

### ПРАДАЕЦЦА:

**аўтамабіль ГАЗ-53 (бензін) 1981 года выпуска, нядорага. Хатнія тэлефоны ў Глыбокім: 23913; 21170.**

**трохпакаёвая кватэра ў двухпавярховым катэджы з усімі выгодамі (участак, гараж, хлеў). Звяртацца па адрасу: г. Глыбокае, вул. Заходняя, 1, кв. 1; тэлефон: 2 40 70**

***

**☒ хата ў вёсцы Шуневічы (прыгарад Глыбокага) з гаспадарчымі пабудовамі і тэлефонам, нядорага. Тэлефанаваць 2-51-36 на працягу рабочага дня.**

**☒ Прадаецца 3-хпакаёвая кватэра ў раёне МКК. Кошт па дамове (нядорага). Тэл.: 24335**

**☒ дом з гаспадарчымі пабудовамі, нядорага, у в. Міхайлаўка (прыгарад Глыбокага). Тэл. у Глыбокім 2 35 37**

### БУДУЮ:

**хаты, гаражы, фундаменты, платы з каменя. Нядорага. Па дамоўленасці. Тэлефон у Глыбокім: 23754**

### ШУКАЮ РАБОТУ:

**☒ маладая дзяўчына шукае працу па спецыяльнасці цырульніка. Звяртацца на тэл.: 37072, спытаць Вольгу.**

### ДАПАМАГУ:

**падрыхтавацца да ўступных экзаменаў у ВНУ па нямецкай мове. Тэлефон у в. Залессе: 36121.**

### ЗАПРАШАЕМ:

**Ты прагнеш жыць у заможнай і цудоўнай краіне, дзе здзейсняцца ўсе твае мары? Так!? Але што ты зрабіў асабіста, каб гэта стала рэчаіснасцю? Напярэдадні прэзідэнцкія выбары. Ты можаш уплываць на тое, каб яны адбыліся чэсна, без падтасовак, калі прыйдзеш на выбарчы ўчастак грамадскім назіральнікам. Тэлефануй мне: 3 76 19 (Яраслаў). Жыве Беларусь!**

Па дадзеных Цэнтрвыбаркама зарэгістраваны 22 ініцыятыўныя групы па збору подпісаў за прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Так што альтэрнатыва цяперашняму кіраўніку краіны ёсць.

Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!


Незалежная рэгіянальная Вольнае Глыбокае газета

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць два разы на месяц.
Аб'ём – 2 друкаваныя аркушы.
Падпісана ў друк 24 чэрвеня 2001 г. у 18-43.

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26   Замова 4419